 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 19 (1263) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 11 МАЯ 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.


## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80

Штогод Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства праводзіць агляд конкурсу „Беларуская песня". Гэтае мерапрыемства, маніфестацыя родных мелодый, з'яўляецца святам і для ўдзельнікаў і для слухачоў.

Сёлета агляд адбыўся ў нядзелю 20 красавіка ў кінатэатры „Звёнзковец" у Беластоку. Дзевяць гадзін раніцы. Зала памалу запаўняецца слухачамі. Да распачацця яшчэ паўгадзіны. Адны з нецярплівасцю сядзяць і чакаюць, іншыя аглядаюць і набываюць кніжкі, продаж якіх наладзіў Беластоцкі дом кнігі. Можна было там таксама купіць і нашы БГКТоўскія выданні. Прыбыўшыя ўдзельнікі вядуць апошнюю падрыхтоўку. Многія яшчэ не прыехалі. Пагода не надта добрая. Вее моцны вецер, надта ж холадна. Чуваць, як пагаварваюць, што могуць не ўсе прыехаць. Ёсць жа і такія, якім трэба дабірацца амаль сто кіламетраў. Але агляд распачаўся пунктуальна. Прыехалі.

У конкурсе „Беларуская песня-80" прыняло ўдзел шаснаццаць калектываў, сем дуэтаў і дзевяць салістаў. Агляд адкрылі і павялі працаўнікі ГП БГКТ Людміла Шырковец і Вячаслаў Самойлік. Прывітаўшы ўсіх слухачоў і запрошаных гасцей, аддалі голас удзельнікам. Першым выступіў калектыў „Каласкі" з Беластока. Запанавала цішыня. Толькі са сцэны ўзляталі і рассыпаліся па запоўненай зале, прыемна казытаючы вуха слухачоў сваёй меладычнасцю, гукі родных песень. Відаць напружанасць, відаць, як прагна ловяць тут кожнае слова, кожны зык. І раптам залай ускалыхнулі бурлівыя апладысменты.

На сцэну ўваходзяць усё новыя спевакі, новыя калектывы. Вось дуэт старэнькіх жанчын з Новай Волі. Спяваюць Клаўдзія Домань і Марыя Сак. Тэма песень, народная вопратка ўводзяць прыўзняты настрой. Напамінаюць аб культуры нашага народа. І, здаецца, ты не ў зале кінатэатра, а на вясковай вуліцы ў цёплы летні вечар, у які ўліваюцца спевы дзяўчат, што пасядалі на прывулічнай лаўцы.

І зноў новы настрой. Па зале расплыліся словы прыгожай партызанскай песні „Ой, бярозы ды сосны". Спявае дуэт з Ляўкова — Уладзімір Ахрымюк і Міхась Сухадола. Песня льецца проста з душы, відаць як перажываюць кожнае слова. Доўгія апладысменты гавораць аб уражанні слухачоў. Трэба яшчэ раз выходзіць на сцэну.

Раптам зала замерла. Са сцэны спакойна паплыў моцны і прыгожы голас Юркі Гаўрылюка з Бельска. Поўнасцю завалодаў увагай і прызнаннем слухачоў, асабліва выкананнем гумарыстычнай песні „Як павезлі мяне сватаць".

Не толькі народныя, не толькі гумарыстычныя песні ўладарылі сцэнай. Шмат было і сучасных. Асабліва вельмі прыгожым было выступленне калектыву з Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Выступілі яны не толькі з песняй, але і са сваёй музычнай апрацоўкай. Былі і песні маладзёжныя. Доўга слухачы сваімі апладысментамі не адпускалі са сцэны Алі Гаўрылюк пасля выканання песні „Ля кастра".

Разнастайнасць рэпертуару, пачынаючы ад фальклорных песень, а канчаючы на маладзёжных, вялікая гама галасоў, узрост выканаўцаў, дазволілі дайсці песні да душы кожнага слухача.

(Працяг на стар. 3)




*Спяваюць маці з дачкою Люба і Аля Гаўрылюк з Беластока, акампаніруе Андрэй Радзівановіч.*

АЛА ЧЭЧУГА




Напэўна вы скажаце: рана яшчэ займацца ўспамінамі. І будзеце мець рацыю. Тыя, аднак, 35 пасляваенных год, што так неўпрыкметку здрадзілі мне, але і падгаілі крыху мае дзіцячыя, негаючыя раны, даруюць сёння. І няхай даруе яшчэ мой сябра Сакрат, які папракнуў мяне калісьці, што я ў дзяцінстве не хадзіла боса. Толькі цяпер, праз 20 год, я вырашыла неяк апраўдацца.

Божа! Хадзіць боса па свежай, ласкавай мураве! Зашыцца ў дзікі маліннік! Гнаць кароў, датыкаючы босай ступнёю выхаджанага вясковага грунту... Сакрат, я веру, што ты ў дзяцінстве не грашыў лішняй парай чаравікаў, але скажы, ці ты таксама ведаеш, што гэта такое лес, гравейка, неба?..

Для цябе лес быў перапоўнены гоманам птушак, веснавымі пахамі кветак, ты, як цікаўны хлапец, напэўна, любіў хадзіць па слядах звярыны, ганяўся за зайцам, падглядаў ліса, а магчыма, твая неспакойная душа пужала часамі і птушак у гнёздах.

Калі я была дзіцём, мне лёс прыпаднёс іншы вобраз лесу: лесу, які быў маім домам, але ў які ў любы момант мог прыйсці няпрошаны звер у зялёным нямецкім шынелі; гэты прышэлец мярэшчыўся мне за кожным кустом і кожным дрэвам і доўгія гады пасля не даваў спаць начамі. Дык калі зраніў ты парою дзіцячую нагу, ходзячы боса па пожні, хачу цябе пацешыць: фізічны боль праміна́е даволі хутка; псіхічны ж — вярэдзіць душу да канца жыцця.

* ✲ *

Мне ўжо за сорак. Дачцы — дзевятнаццаць, і гук рэактыўнага самалёта нязменна прыводзіць ёй на думку блакітнае неба Сочы. Летам у Аўгустове яна рэгулярна хадзіла падвечар на мола: глядзела, паглынала, малявала непаўторныя колеры заходзячага сонца. На яе малюнках я бачыла барвова-вогненную шэрасць, адбітую ў спакойнай сталі вады, маестатычны чарот, цішыню... Пэндзаль клаў мазкі смела і ўпэўнена, а мне было сумна: барвовы захад сонца яшчэ да сёння сплятаецца ў маёй памяці з вобразам крывавага зарыва начных пажараў.

Ад гуку самалётаў я ўжо вылечылася гадоў пятнаццаць таму назад. Раней я ўціскала галаву ў плечы, заплюшчвала вочы, дранцвела (думала: канец!). Цяпер самалётаў не баюся, але пахі лесу, асабліва яліны, усё яшчэ вяртаюць мяне ў маё далёкае трывожнае дзяцінства.

* ✲ *

Бачу твар бацькі (найчасцей бацькі). Заўсёды завіхаўся на новым месцы партызанскай стаянкі, падмошчваючы мне, пяцігадовай дзяўчынцы, пасцель з

(Працяг на стар. 4)

## ПАД АЛІМПІЙСКІМІ ЛАЎРАМІ

Вестка аб алімпійскіх лаўрах вучняў ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску апярэдзіла іх вяртанне дамоў. Ужо было вядома, што **Андрэй Рубашэўскі,** вучань IV класа, заваяваў **першае** месца на **цэнтральных** спаборніцтвах у рамках **алімпіяды ведаў аб Польшчы і сучасным свеце,** даказаўшы, што ён у гэтай галіне найлепшы знаток сярод амаль паўтара мільёна школьнікаў, якія першапачаткова прыступілі да гэтых спаборніцтваў. Яго сябар **Міраслаў Дораш** быў трэцім. А іншыя: **Міраслаў Суліма-Даліна,** вучань IVa класа і **Пятро Адамюк,** вучань IIIa класа — таксама шчыра папрацавалі на тое, каб ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча праславіўся **першым калектыўным месцам** сярод усіх іншых сярэдніх школ у Польшчы.

14 красавіка змучаныя, але і задаволеныя вынікамі вярталіся яны ў Бельск, вярталіся з далёкага гарадка Новы Томысль, што пад Познанем. Суправаджалі іх дырэктар ліцэя мгр **Аляксей Карпюк** і мгр **Таіса Бялецкая,** якая рыхтавала іх да алімпійскіх спаборніцтваў. Гэта была таксама асабістая перамога і дырэктара, і настаўніцы, асабліва яе — **Таісы Бялецкай,** якая ў Бельскім ліцэі вучыць дзяцей гісторыі і прапедэўтыкі ведаў аб грамадстве.

— З цягніка адразу накіраваліся мы ў ліцэй, — расказвае яна. — Ногі нашы ўгіналіся ад стомы, а яшчэ больш ад цяжару алімпійскіх кубкаў, ды іншых трафеяў, якіх накапілася вельмі многа, а тут — перад школьным гмахам выстраілася на парадным зборы ўся наша моладзь. Грыміць у гонар алімпійцаў магутнае: *„Гіп, гіп — ура! Ура! Ура!"* І вітаюць нас хлебам ды соллю. Я проста разгубілася, ледзь не расплакалася, а на душы радасна. Але неяк крыху перамаглася, адламала кусочак хлеба, замачыла ў соль, перакусіла і запіла слязінай радасці...

Хлебам-соллю на падмостках ліцэя ўшанавалі затым дырэктара Аляксея Карпюка і яго вучняў-алімпійцаў. Пані Таіса, ужо супакоіўшыся, глядзела на ўсё гэта з боку і зноў прыходзіла да вы-

(Працяг на стар. 4)




*Андрэй Рубашэўскі і Міраслаў Дораш.*

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80

(Працяг са стар. 1)

Кожны змог пачуць тое, што яму блізкае. Немалое значэнне меў і знешні выгляд спевакоў, асабліва, калі выконвалася фальклорная песня. Народная вопратка, у якой выступалі выканаўцы, яшчэ больш паглыбляла настрой, яшчэ глыбей даходзіла да слухачоў.

І вось прагучэлі галасы „Дубочкаў", калектыву з Дубяжына. Гэта быў апошні пункт сёлетняга агляду. Але зала была ўсё яшчэ нібы зачараваная. Сядзелі. Памалу то там, то тут завязваліся размовы, людзі дзяліліся ўражаннямі. У кожнага быў свой пераможца. А журы пайшло на ацэначную кансультацыю. Удзельнікаў многа, узровень выканання таксама высокі. Трэба вылавіць найлепшых.

Трохасабовае журы пад старшынствам сакратара рэдакцыі „Нівы" Ады Чэчугі і ў складзе: Януш Папай — журналіст музычнай рэдакцыі пры Польскім радыё ў Беластоку ды Эдмунд Юхневіч — дырэктар калектыву музычных школ у Беластоку, ацэньвала ўдзельнікаў у катэгорыі фальклорнай і сучаснай песні.

А на сцэне, пакуль журы рабіла ацэнку, ішлі пазаконкурсныя выступленні. Доўга цешыў слухачоў сваім прыгожым голасам Міхась Артышэвіч, апякун харавога калектыву ў Аўгустове. Але ў асноўным гэта было чаканне вынікаў ацэнкі.

Раптам зала заціхла. На сцэну выйшла старшыня журы Ада Чэчуга. Падсумавала яна агульна сёлетні агляд, яго ўзровень і прачытала прозвішчы пераможцаў.

І так у катэгорыі фальклорнай песні сярод салістаў першае месца заняў Юрка Гаўрылюк з Бельска, другое месца прызналі Ніне Такаюк з Мікуліч і трэцяе — Анне Кузьмицкай з Новай Волі. У дуэтах першае месца прызналі Клаўдзіі Доманъ і Марыі Сак з Новай Волі, другое — Веры Осяк і Веры Сват са Старога Ляўкова, а трэцяе — Яўгеніі Вішанка ды Ніне Такаюк з Мікуліч. З калектываў найлепшымі аказаліся „Васілёчкі" (мешаная група) з Бельска, на другім — „Дубочкі" з Дубяжына, а трэцяе падзялілі паміж „Незабудкамі" з Курашава і мужчынскай групай з Аўгустова.

У катэгорыі сучаснай песні сярод салістаў першае месца падзялілі маці і дачка — Аля і Люба Гаўрылюк з Беластока, а другое — Аліна Бурыла з Бельскага белліцэя і Аляксандр Раманюк з Дубяжына. Трэцяга месца не было. З дуэтаў на першым месцы апынуліся Аля і Люба Гаўрылюк, на другім — Уладзімір Ахрымюк і Міхась Сухадола з Ляўкова, а на трэцім — Галена Кот і Ірына Паўлючук з Гарадка. Сярод калектываў у катэгорыі сучаснай песні найлепш выступіў калектыў з Гайнаўскага белліцэя, другое месца прызналі „Дзявочым ноткам" з Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску, а трэцяе — жанчынам з Гарадка і калектыву „Каласкі" з Беластока.

Сёлетні агляд конкурсу „Беларуская песня" паказаў на вялікую папулярнасць гэтага мерапрыемства. Вялікая колькасць удзельнікаў яшчэ раз гаворыць аб жывучасці роднай песні ў народзе.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара



*Выступае дуэт з Новай Волі Клаўдзія Доманъ і Марыя Сак.*



*Саліст з Бельска Юрка Гаўрылюк.*



*Слухачы пільна ловяць кожнае слова.*

КРАСУЙ НАША ДРУЖБА!

# ПРЫЯЗНЫЯ МЕЛОДЫІ

Багатая мерапрыемствамі была красавіцкая **Дэкада савецкай культуры** на Беласточчыне — спатканні з савецкімі грамадскімі дзеячамі, творцамі і вучонымі, сімпозіумы, семінары, урачыстыя пасяджэнні, даклады, выстаўкі. Хоць розныя яны былі па свайму характару, але ўсім ім спадарожнічала такое ж самае шчырае пачуццё прыязні да савецкага народа і жывое зацікаўленне яго дасягненнямі. Канцэрты савецкіх артыстаў — гэта былі не толькі свежыя ўражанні, але і новыя адкрыцці.

17 красавіка г.г., у тэатры імя А. Вянгеркі выступіў ансамбль сусветнай славы **„Расія"**. Захапіў ён беластаччан манументальнасцю вакальнай культуры **Людмілы Зыкінай,** віртуознай ігрой на розных рускіх народных інструментах паасобных салістаў і ўсяго калектыву, невычэрпным багаццем рускага меласу — першакрыніцы творчых здзяйсненняў гэтага калектыву. У ім аб'ядналася ў адзінае цэлае стагоддзямі фарміраваная і дасканаленая руская народная музычная культура са здзіўляючай таленавітасцю сённяшніх рускіх савецкіх прафесіянальных вакалістаў і музыкаў, якія не толькі чэрпаюць з яе інспірацыі да свае творчасці, але і адначасова ўзбагачаюць новымі каштоўнасцямі.

Урачыстасць 21 красавіка ў той жа тэатральнай зале ў гонар 110 гадавіны з дня нараджэння У. І. Леніна і 35 гадавіны падпісання Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Польшчай і СССР аздобілі багатымі выступленнямі самадзейнікі з саўгаса „Прагрэс", што ў Верцялішках на Гродзеншчыне, і з радыёзавода ў Каўнасе. Здольныя верцялішскія аматары добра вядомы беластаччанам сваімі папярэднімі ўдалымі выступленнямі ў нас, цяпер здзівілі цікавай новай праграмай у выкананні вакальна-інструментальнага калектыву **„Раніца"**. Выконваў ён эстрадныя беларускія і рускія песні. Асабліва запаланіла слухачоў дасканалая апрацоўка беларускай народнай каляднай песні і яе майстэрскае выкананне. Каўнаская **„Вясковая капэла"** ўразіла лёгкасцю і жывасцю выканання свайго рэпертуару, складзенага з народнай і эстраднай літоўскай песні і музыкі. Цёпламу ўспрыняццю яе залай зусім не перашкаджаў моўны бар'ер. Што ж, праўдзівае песеннае мастацтва не патрабуе перакладчыка! Як і ўсё, што звязана з Савецкім Саюзам, яно заўсёды блізкае нашаму сэрцу.

**Мікалай Гайдук**

Беларуская ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНАР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LXX**

**Заканчэнне.** Сказанае дагэтуль аб дарэвалюцыйнай творчасці Я. Коласа далёка не вычэрпвае ўсёй тэматычнай і фармальнай глыбіні спадчыны гэтага пісьменніка. Аднак ужо на падставе сказанага відаць, што дарэвалюцыйная творчасць Коласа многажанравая, складаная. Ужо у перыяд „Нашай нівы" было ясна, што не хто іншы, а якраз Я. Колас становіцца найбольш універсальным беларускім пісьменнікам. У яго нашаніўскай спадчыне знаходзім вершы, вершаваныя апавяданні і фельетоны, паэмы, рэалістычныя апавяданні, алегарычныя навелы, сцэнічныя творы.

Ужо ў перыяд „Нашай нівы" Колас падышоў уплатную да стварэння аповесці. Яго навелістыка якраз і была тым грунтам, па якім пачалі паўставаць празаічныя формы і ў творчасці Коласа і ў творчасці іншых беларускіх пісьменнікаў у першыя гады Савецкай эпохі.

Трэба сказаць, што большасць вершаў Коласа нашаніўскай пары была ўтрымана ў характэрным для эпохі журботным настроі. Можам тут гаварыць аб прадаўжэнні традыцый Багушэвіча і Лучыны. Глыбокае спачуванне сялянскай нядолі, плач над бязвыхаднасцю вясковага жыцця — гэта тыя агульныя моманты, якія былі характэрныя для дэмакратычна настроеных пісьменнікаў XIX стагоддзя з аднаго боку і Коласа ды Купалы з другога.

Трэба аднак сказаць, што коласаўская грамадзянская лірыка не змяшчаецца поўнасцю ў рамках ідэй Багушэвіча ці Лучыны. Колас не мог не зрабіць вывадаў з існуючай новай сітуацыі і не ўвесці ў сваю паэзію новых тэм, матываў і ідэй. Пошукі прычын існуючага зла, абвінавачанне несправядлівай сістэмы, спробы стварэння станоўчых сялянскіх герояў, вера ў нацыянальнае і грамадскае адраджэнне краіны ў Коласа намнога мацнейшыя, чым у яго літаратурных папярэднікаў.

Усё сказанае адносіцца да нашаніўскіх вершаў пісьменніка. Зусім асобным раздзелам у творчасці Коласа, а таксама ва ўсёй нашаніўскай паэзіі з'яўляецца яго паэма „Новая зямля". Не толькі ў нашаніўскай пісьменнасці, але па сутнасці ва ўсёй беларускай літаратуры ад пачатку яе існавання да сённяшніх дзён няма другога паэтычнага твора, які б па сваіх мастацка-праблемных якасцях мог зраўняцца з гэтай паэмай.

Многае зрабіў Колас таксама ў развіцці беларускага апавядання і навелы. Ніводзін з папярэднікаў Коласа або яго сучаснікаў не стварыў такой колькасці апавяданняў і з такой разнароднай тэматыкай. Дзіцячая праблематыка, сацыяльныя тэмы, жыццё чыноўніцтва і інтэлігенцыі — усё гэта знайшло адлюстраванне ў навелах і апавяданнях пісьменніка. Кідаецца ў вочы і тое, што прадстаўляючы вясковую рэчаіснасць, Колас, як ніводзін з іншых пісьменнікаў, бачыў у ёй сур'ёзнае і смешнае. Асобную і поўнасцю арыгінальную з'яву складаюць яго алегарычныя навелы, у якіх пісьменнік паспрабаваў філасофска асэнсаваць істоту чалавечага існавання і месца ў чалавечым жыцці айчыны.

У суме нашаніўская творчасць Коласа гэта прыгожая і глыбокая крыніца мастацкага пазнання рэчаіснасці.

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ.**

# НАРАДЖАННЕ

У хаце сумны настрой. Памёр чалавек. Завесілі ўсе люстры, так як закрыліся вочы памершага. Завешвалі іх найчасцей абрусам або ручніком. Спынілі ў хаце гадзіннікі. Для памёршага зямны час ужо не існуе. Яго душа падпарадкавалася другім законам. Пераступлены парог ад жывых на „той свет". Няма магчымасці павароту.

Нехта з хатніх, ці з запрошаных паехаў у царкву па „рэчы" — крыж і чорную харунгву. У хаце рыхтуюцца да „нараджання". У залежнасці ад ваколіцы выконвалі гэта або хатнія, так як прыкладна ў Малешах, або старэйшыя вясковыя жанчыны. У большасці спатыкаецца другое. Старую вопратку, так як сказала інфарматарка з Галадоў, стараліся па меры магчымасці скідаць праз голаў.

Вось унеслі капаньку з вадою. У ёй ручнік. Гэтым ручніком будуць мыць.

„— Мыць трэба там, дзе чалавек памёр, — гаворыць адна жанчына з Кошак, што ў Арлянскай гміне. — Калі ў кухні — у кухні, калі ў сенях — у сенях". Памёршы ляжаў раздзеты на разасланай на падлозе саломе. Адна падтрымоўвала, другая выцірала змочаным ручніком. Ваду, якой мылі, лічылі шкоднай. Вылівалі яе найчасцей у выкапаную за парогам або за вуглом ямку. Парог быў свайго роду сімвалам. Быў ён той мяжой, якая быццам бы раздзяляла два светы — унутраннасць (свет хатні) ад знешнасці. Адным словам, выліванне вады за парогам было вынясеннем з хаты няшчасця.

Абмытага пачыналі апранаць. Вопратка была ўжо падрыхтавана загадзя, яшчэ пры жыцці пакойніка. Ляжала яна зложаная ў скрыні. Як правіла, апраналі ў цёмнае. Адносілася аднак гэта да старэйшых. Зусім інакш выглядала „нараджанне" маладой, незамужняй дзяўчыны. Апраналі яе ва ўсё белае, на голаў нярэдка накладалі вэлюм і абкладалі кветкамі. Адным словам, нагадвала гэта выпраўленне да шлюбу, толькі выпраўленне сумнае.

Пакуль „нараджалі" пакойніка, на панадворку рабілі труну. Зараз набываюць гатовую, але некалі збівалі яе з дошак. „Нараджанага", калі труна яшчэ не была падрыхтаваная, клалі на покуці — на пастаўленых у куце пад абразамі і засланых цёмнай саматканкай столках. Клалі яго галавой да абразоў.

Згодна з перакананнем, памёршы меў лячэбны ўплыў на некаторыя хваробы, асабліва хваробы скуры. Людзі верылі, што калі дакрануцца яго мізінным пальцам да хворага месца — лішая, скулы, бародавак ці ім падобных, дык скура ачысціцца, чалавек выздаравее. Былі выпадкі, калі лячылі нават эпілепсію. Гэтакі выпадак быў некалі ў Кошках. Малым хлопчыкам пачала кідаць падачка. Як сказала інфарматарка з Кошак, трэба было прывесці хворага ў хату, дзе быў пакойнік, узяць нітку, змераць яго рост і палажыць пакойніку ў труну. Згодна з перакананнем людзей, забярэ ён хваробу з сабою на „той свет".

Прывезлі рэчы. На варотах паставілі харунгву. Усім ясна — у гэтай хаце памёршы. Крыж клалі ля сцяны, ля якой ляжаў пакойнік, перакрэсцем да яго галавы. У хату пачалі зыходзіцца аднавяскоўцы на апошняе развітанне. Чуваць спевы. Над пакойнікам прычытваюць блізкія. Але аб гэтым наступным разам.

**Міхась Шаховіч**

# ГМІННЫЯ НАВІНЫ

## У ДРАГІЧЫНСКАЙ ГМІНЕ

Як паінфармавала нас начальнік горада і гміны мгр інж. Марыя Хлябінская, Драгічынская гміна — выключна сельскагаспадарчая. У мінулым годзе земляробы нарыхтавалі 30 тысяч тон квашанак, г.зн. у два разы больш, чым у 1978 годзе. Зрабілі таксама запарку 1002 тоны бульбы, г. зн. на 762 тоны больш, чым у 1978 годзе. Дзякуючы павелічэнню кармавых рэсурсаў павялічылася жывёлагадоўля.

У 1979 годзе насельніцтва выканала грамадскіх пачынаў на суму звыш 13 мільёнаў злотых, што ў пералічэнні на аднаго статыстычнага жыхара гміны складае 1561 залатоўку. У асноўным рэалізавалі іх пры рамонтах мясцовых дарог і пабудове стражацкіх рамізаў. Варта адзначыць, што вартасць пачынаў з году ў год расце.

## ХЛЕБАБУЛАЧНЫЯ ВЫРАБЫ З НАРАЎКІ

Ужо шосты год працуе новая пякарня ў Нараўцы. Выпускае яна тры тоны хлебабулачных вырабаў у суткі. Якасць і колькасць вырабаў, у параўнанні са старой пякарняй, значна палепшылася і павялічылася. Умовы працы таксама намнога лепшыя. Усюды парадак і чысціня. Усё ляжыць на сваім месцы. Ёсць склады солі, мукі, маргарыну, шмальцу, алею, пладовых прадуктаў і розных прыпраў.

— З мукой клопатаў няма. Дастаўляе яе Беласток, Ольштын і Накла, заўсёды ёсць запас, — гаворыць кіраўнік Аляксандр Вішнеўскі. — Найбольш пячэм хлеба „познанскага", „тарунскага" і „старапольскага" (гэты хлеб пякуць з дадаткам бульбяной мукі). А ўсіх гатункаў аж 17. Салодкіх вырабаў (булкі, пончыкі, торты і іншыя выпускаюць аж 16 сартоў) пякуць тры тоны ў месяц.

Працуе тут дзевяць пекараў, найлепшыя: Уладзімір Пацэвіч, Славамір Валкавыцкі, Ірэна Трусевіч і іншыя. Ёсць яшчэ дзве вучаніцы: з Навасадаў і Плянты.

Хлебабулачныя вырабы з Нараўкі рассылаюць у 20 пунктаў продажу ў Нараўкаўскай гміне і ў 10 у Гайнаўскай гміне. Возяць іх штодзень. Апрача таго, у чатыры крамы ў Нараўцы хлеб дастаўляюць рана і пасля абеда. 600 булачак возяць у школы, у якіх дзеці карыстаюцца са шклянкі гарачага малака.

## НОВЫ КЛУБ

У пачатку бягучага года ў Відаве быў адкрыты клуб прэсы і кніжкі. Клуб будавалі ўсе відаўцы. Апрача таго, яны сабралі на яго па 500 злотых ад сям'і добраахвотных складчын. Закончыць пабудову дапамаглі гмінныя ўлады. Заангажаванне жыхароў Відава было вялікае. Солтыс, быў ён старшынёю грамадскага камітэта пабудовы святліцы, часта склікаў аднасяльчан на грамадскі пачын — і ніхто яму не адмовіў.

Атрымаўся даволі прасторны будынак. Месца ў ім дастаткова. Клуб „Рух" займае чатыры пакоі. Ёсць тэлевізар, радыёпрыёмнік і магнітафон. Клуб вядзе жанчына Барысюк, якая жыве побач. Цяпер моладзь і старэйшыя штовечар наведваюць клуб, месца культурнага адпачынку.

У Бельскай гміне цяпер дзейнічае 12 клубаў прэсы і кніжкі, з якіх найлепшымі з'яўляюцца клубы ў Стрыках, Дубяжыне, Гусаках, Райску і Відаве.

Варта адзначыць, што бельскае прадпрыемства РСВ вядзе дзейнасць у 83 клубах „Рух" у 19 гмінах і ў 2 гарадах у Бельску і Гайнаўцы.

## ШУДЗЯЛАЎСКАЯ ДЭМАГРАФІЯ

У Шудзялаўскай гміне пражывае 5 762 асобы, у тым ліку 2909 мужчын і 2853 жанчыны. Найбольшымі вёскамі з'яўляюцца: Вярхлес — 683 жыхары, Шудзялава — 376 жыхароў, Мінкоўцы — 334 жыхары, Кнышэвічы — 297, Сухінічы — 249 і Паўночны Востраў — 235 жыхароў. У мінулым годзе, як паінфармавала нас кіраўнічка ЗАГСа Тарэса Бах, пажаніліся 34 пары і ў студзені і лютым бягучага года — 6 пар. Нарадзілася 50 дзяцей. Бацькі давалі ім імёны: Маніка, Марта, Тамаш і Войцех. У вёсцы Уснаж Гурны пражывае стогадовая Марыя Эйсмонт, якая нарадзілася 10 красавіка 1880 года. Колькасць насельніцтва ў гміне змяншаецца. У параўнанні з мінулым годам лік жыхароў зменшыўся на 128 чалавек.

**(яц)**



*Алімпійцы, дырэктар і настаўніца Таіса Бялецкая.*

# ПАД АЛІМПІЙСКІМІ ЛАЎРАМІ

**(Працяг са стар. 1)**

ваду, што аднак варта было ставіць сабе і сваім выхаванкам высокія мэты, што для адной такой хвіліны, як гэтая, калі чуеш у сэрцы сотняў маладых людзей і сяброў па працы, настаўнікаў, сапраўднае і шчырае прызнанне, для адной такой хвіліны варта было адмаўляцца ад розных прыемнасцей штодзённага жыцця, каб яшчэ і яшчэ папрацаваць з таленавітымі вясковымі юнакамі, у якіх сэрца і розум наўсцяж адкрытыя для ведау, а пастаяннае паглыбленне сваіх кругаглядаў лічаць яны асноўнай мэтай свайго жыцця.

Каб былі такія імкненні, неабходна спрыяльная атмасфера ў школе. Ствараюць яе тут калектыўна ўсе настаўнікі, а падбадзёрвае іх дзеля гэтага дырэктар. У Аляксея Карпюка ўсё абгрунтавана на фактах. Хопіць толькі яму паддацца, а ён зараз засыпле вас лікамі і дакументамі, якія чорным па белым даказваюць, што на працягу апошняга дзесяцігоддзя ўзровень навучання ў Бельскім беларускім ліцэі пастаянна павышаецца. Афіцыйна сцвердзіла гэта падрабязная візітацыя школы, праведзеная ў 1976 годзе працаўнікамі кураторыі. Падводзячы вынікі гэтай візітацыі, куратар паўжартам, паўсур'ёзна заявіў тады:

— Яшчэ толькі не хапае вам алімпійца.

...І вось ён ёсць: **Андруша Рубашэўскі** — з хутара за Орляй, дзе яго бацька **Васіль** разам з мамай **Надзеяй** апрацоўваюць даволі вялікую, бо звыш 20-гектаровую гаспадарку.

Аднойчы я пабываў на гэтым хутары. Рубашэўскія занятыя былі тады пабудовай аграмаднага жылога дома, а на пасбішчы, якое мяжуе з панадворкам, знаходзілася некалькі букатаў і звыш ста штук авечак.

— У гэтым доме, — гаворыць зараз алімпійчык Андрэй Рубашэўскі, — жывем мы ўжо два гады, але авечак у таты цяпер намнога менш, бо няма каму рабіць. Я вучуся, зараз — матура, а затым універсітэт, сястра Лена — таксама тут у ліцэі, у другім класе, а наймалодшая Нінка — яшчэ ў пачатковай школе ў Орлі.

— Як цябе прывіталі дома пасля вяртання з цэнтральных спаборніцтваў? — пытаю яго.

— Яны ўжо таксама ведалі, бо чулі па радыё і глядзелі ў тэлевізійнай перадачы. Мама найперш абцалавала мяне, як малое дзіця, а затым узяла і расплакалася ад радасці. Тата — толькі моцна, так па-мужчынску, пацiснуў мне руку і сказаў: „Ну, малайчына!"

Нездарма я тут разгаварыўся пра гектары, авечак і букатаў. Сялянскае паходжанне яднае іх усіх. Міраслаў Дораш — з вёскі Кнарыды, Міраслаў Суліма — з Тапчыкалаў, а Сцяпан Федарук — аж з Малочак. Не адзін з іх не мае школы за плотам ці на суседняй вуліцы. Усе яны вымушаны два разы ў дзень выцірацъ пыл у аўтобусах і цягніках, не маючы ніколі ўпэўненасці, што на час паспеюць на заняткі і вернуцца дамоў. І не адзіная гэта перашкода на іх шляху да ведаў. Ад дзіцячых гадоў іх рукі патрэбныя бацькам на гаспадарцы. Нават цяпер, калі Андруша Рубашэўскі мае ўжо сваё месца на факультэце палітычных навук Варшаўскага універсітэта і цэлае лета свабодна ад кніжак і навукі, на тры месяцы астацца ён дома, *„бо трэба бацьку дапамагчы"*.

— Ну, можа на нейкі тыдзень або два выскачу да дзядзькі ў Гданьск, але не на больш, — яшчэ няўпэўнена гаворыць ён. Дапамога бацькам у іх працы на полі для гэтых алімпійцаў з'яўляецца проста неад'емнай часцінай жыцця.

Калі тады аднак знайсці час на вывучэнне такіх сур'ёзных праблем і кніжак, як *„Крытыка палітычнай эканоміі"* Карла Маркса, як Ленінская праца *„Дзяржава і рэвалюцыя"*, як зборнікі дакументаў і матэрыялаў з розных з'ездаў партыі, як універсітэцкія падручнікі па філасофіі, гісторыі рабочага руху і гісторыі краіны?

— Спосаб на перамогу? — паўтарае маё пытанне Андруша Рубашэўскі і, нядоўга думаючы, адказвае: — Толькі адзін: праца і яшчэ раз праца. Самастойная праца пад разумным кіраўніцтвам настаўніка.

Спосаб сапраўды просты. Ажыццявіць яго аднак ужо намнога цяжэй. Для гэтых вучняў не толькі далёка да школы, але яшчэ далей да розных крыніц ведаў. Няма ж у бацькі багатай хатняй бібліятэкі, не ўсе патрэбныя падручнікі і даведнікі можна атрымаць нават у Бельску, а са столі не навучышся...

Пераадолець цяжкасці дапамагла спрыяльная атмасфера ў школе, бо алімпійская ідэя ўжо глыбока тут закаранілася.

— Нашы вучні, — сцвярджае дырэктар А. Карпюк, — у гэтым навучальным годзе прымалі ўдзел аж у 11 прадметных алімпіядах. Маючы на ўвазе спецыфіку нашага ліцэя, — дадае ён, — асабліва нас цешыць поспех нашай вучаніцы ў алімпіядзе па польскай мове. Гэта разбівае міф, што выпускнікі нашага ліцэя выходзяць недавучанымі па польскай мове.

Значыць, не толькі адна прафесар Таіса Бялецкая мае асновы ганарыцца сваімі пераможцамі алімпіяды. На агульныя вынікі працуюць тут усе настаўнікі.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Алімпійскія трафеі бельскага белліцэя.*

**(Працяг са стар. 1)**

**АДА ЧЭЧУГА**




ялінавых галін у ялінавым шалашы. Вялікага лесу, з старымі ялінамі, немцы баяліся...

У левым кутку воза, у якім партызаны перавозілі ад стаянкі да стаянкі боепрыпасы і розныя іншыя рэчы, я мела „сваё" месца. Рэчаў накладвалі столькі, што мяне ледзь уціскалі туды, але я ніколі не забывалася ўзяць у рукі маю „ляльку". Была гэта скручаная ў пакецік анучка з намаляванымі мною вачыма, і вуснамі; гэта не перашкаджала мне, аднак, беражліва захутваць яе ў розныя шматкі і трымаць на руках, як дзіця. Я была нават звязала на прутках коўдрачку з рэштак старых ніцак для маёй лялькі. Помню „мой" воз, як цяпер: едзе лясной дарогай, чуваць нейкі грукат, гул, відаць, ад недалёкай шашы. І злавесны пошум сярод партызан: „Танкі!.."

Абразкі з жыцця то на калёсах, то ў зямлянцы, то ў яловым шалашы ў летнюю пару, а то і ў вёсках партызанскай зоны мільгаюць у маёй памяці, як у калейдаскопе.

...Вёска Буды ля Лысай гары. З вечара вяскоўцы выйшлі на вуліцу, бабы, склаўшы рукі, трывожна ўглядаліся ў бок суседняй вёскі. Бачу ўпершыню зарыва: вялізнае чырвонае паўколле на цёмным фіялеце неба. Людзі перашэптваюцца, што немец блізка, што паляць... Як жа мне хацелася спаць, калі ў сярэдзіне ночы са сну сарваў усхваляваны голас бацькі: „Уставай, дачушка, немцы!" Немцы! Якое жахлівае слова!.. Закалацілася сэрца. Сон як рукой адняло.

...Ведаю, што я партызанам перашкаджаю. Мне яшчэ мала год, і мяне не бяруць ні „ў разведку", ні „на заданне", ні „ў засаду", ні „на падрыў". А вось сястры Наце ўжо амаль чатырнаццаць і ёй далі вінтоўку, і яна стаяла на пасту. А трынаццацігадовага Лёньку дык выслалі нават на кані ў разведку, і, калі запыталі, ці ён не баіцца, дык ён сказаў: „Крышачку так, крышачку не". І зноў мяне некуды вязуць па снежным полі, на гэты раз элегантнай брычкай. Бацька казаў, што да сваяка Васіля Дадовіча, каб ратаваць. Але як жа ратаваць, калі мусім пераехаць праз замерзшае возера і кучар кажа, што можам праваліцца... „Ну, двум смярцям не бываць, а адной не мінаваць!" — кажа, як апошнюю малітву, дзядзька кучар і ўязджае на лёд. Я сударгава хапаюся за рукаў бабкі Лізы, якая суправаджае мяне, як быццам бы яе збавенны рукаў мог выратаваць нас ад немінучай смерці пад лёдам. У думках і так уяўляю сабе заламаўшыся лёд і брычку з канём і намі пад вадою.

...Памятаю вёску Сярпішчына і штаб маёра Казанцава. Я ўжо пасталела, мне ўжо шэсць год. Памятаю гэта дакладна, бо якраз тады я хварэла на адзёр, а на дадатак выпаў мой чарговы малочны зуб. Бачу бацьку ў белым маскхалаце, як з групай разведчыкаў адпраўляецца на заданне. Штосьці доўга яны не вяртаюцца. Мама, калі не піша на машынцы, спявае мне сумныя песні: „А ў полі вярба", „Ты ж мая перапёлачка", „Слуцкія ткачыхі". А іх няма і няма, і мы ўжо страцілі надзею, што вернуцца. Мама плача ўсё часцей. Няма і Анатоля Соманава, які сеў на каня і паехаў шукаць разведчыкаў. А я ж сама бачыла, як яго цяжарная Зоя стаяла з ім ля вакна і прасіла, каб не ехаў. ...Частка групы і мой абросшы бацька вярнуліся толькі на шаснаццаты дзень. Немцы забілі пісьменніка Рыгора Мурашку, а Мішу Асіпенку, вяліз-

